# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 8 (2566)

26 лютага 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.


УБЫЛЫЯ часы Масква была не толькі буйным прамысловым цэнтрам, прыярытэты сталіцы нашай радзімы захоўваліся ва ўсім, а таму лепшыя клінікі і навукова-даследчыя інстытуты размяшчаліся менавіта там. Выдатная навуковая база, першакласныя спецыялісты, прыярытэтнае фінансаванне — і ў выніку Масква стала найбуйнейшым медыцынскім цэнтрам, дзе быў назапашаны унікальны вопыт лячэння складаных і рэдкіх захворванняў. У Маскву з'язджаліся пацыенты з усяго Савецкага Саюза, бо стварaць буйныя цэнтры па лячэнню рэдкіх захворванняў у рэспубліках было дорага альбо немэтазгодна. Сёння ва ўмовах нацыянальных суверэнітэтаў старыя сувязі аслабелі і ўзнікла неадкладная неабходнасць наладжваць новыя адносіны на новай аснове — практычна ўсе медыцынскія паслугі ў Расіі цяпер платныя.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## НА ЛЯЧЭННЕ ЗА МЯЖУ

18 снежня 1996 года зацверджана рашэннем выканаўчага камітэта супольніцтва Беларусі і Расіі "Палажэнне аб парадку прадастаўлення медыцынскай дапамогі грамадзянам Рэспублікі Беларусь ва ўстановах аховы здароўя Расійскай Федэрацыі і грамадзянам Расійскай Федэрацыі ва ўстановах аховы здароўя Рэспублікі Беларусь". Гэтым дакументам вызначана аказанне экстраннай медыцынскай дапамогі — яна як у Расіі, так і ў Беларусі грамадзянам гэтых двух краін аказваецца бясплатна, бесперашкодна і за кошт той дзяржавы, у якой часова знаходзіцца хворы. На гэтую дапамогу пацырпелы можа разлічваць да таго часу, пакуль ён не стане транспартабельным — пасля гэтага ён ці выязджае на радзіму, ці працягвае планавае лячэнне за свой кошт. Што тычыцца планавай медыцынскай дапамогі, то яна аказваецца ў абедзвюх нашых дзяржавах на ўмовах узаемаразліку — мы плацім за сваіх хворых расійскаму боку, а расійскі бок — за сваіх хворых беларускаму.

А каго накіроўваць у Расію на лячэнне, вырашае зацверджаная Міністэрствам аховы здароўя "Камісія па накіраванню грамадзян Рэспублікі Беларусь на лячэнне за межы рэспублікі". Аб накіраванні на лячэнне за мяжу могуць хадайнічаць мясцовыя органы аховы здароўя ці навукова-даследчыя інстытуты ў выпадку, калі яны, абследаваўшы хворага, бачаць, што ў нас яму памагчы не могуць. У такім выпадку яны

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*«БЕЛАРУСЬ — МАЯ ПЕСНЯ»*



**У рэспубліцы прайшоў першы фестываль народнай творчасці "Беларусь — мая песня". У рамках яго ў Браславе адбыўся заключны канцэрт мастацкай самадзейнасці раёна, які стаў яркім святам песні, танца, народных абрадаў. Пакарылі гледачаоў артысты фальклорнай групы з вёскі Стаўрова, узорнага аркестра Браслаўскага дома піянераў, народнага ансамбля беларускай песні "На пападворку" з Браслава, фальклорныя калектывы з Друсвят. У свяце прыняло ўдзел шмат моладзі, а гэта значыць, што не знікае цікавасць да беларускай песні, нацыянальнай музыкі, народных абрадаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае фальклорная група "Дрысвяцкія вячоркі"; вясельны абрад "Суборная субота" паказалі артысты Відзы-Лоўчынскага сельскага Дома культуры.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



## ПАМІЖ ФРАНТАМІ

### БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІНАХ ПАЧАТКУ 1920 ГОДА

Палітычнае жыццё Усходняй Еўропы і Беларусі на мяжы 1919 і 1920 гадоў вызначалі падзеі савецка-польскай вайны. Увосень 1919 года польскія войскі, якія з лютага 1919 года змагаліся супраць Чырвонай Арміі, дасягнулі рубяжа Дзвінск — Полацк — Лепель — Барысаў — Бабруйск — р. Прыпяць. У лістападзе 1919 года па ініцыятыве польскага кіраўніцтва, якое непакоіла магчымасць перамогі "рускай рэакцыі", паміж Польшчай і РСФСР было ўстаноўлена фактычнае перамір'е. Спыненне баявых дзеянняў на Заходнім фронце дазволіла кіраўнікам Савецкай Расіі арганізаваць эфектыўнае супраціўленне на іншых франтах. У канцы 1919 — пачатку 1920 гадоў Чырвоная Армія адцясніла войскі Калчака, Дзянікіна і Юдзеніча на Далёкі Усход, Каўказ, у Крым і Прыбалтыку. Следам за ваеннымі поспехамі адбыліся і поспехі "на дыпламатычным фронце". 2 лютага 1920 года РСФСР заключыла мір з Эстоніяй. Мірны дагавор паміж РСФСР і Эстоніяй, які быў падпісаны ў Юр'еве (Тарту), стаў прэцэдэнтам юрыдычнага прызнання РСФСР некамуністычнай дзяржавай і сведчыў аб пачатку выхаду Савецкай Расіі з міжнароднай ізаляцыі, у якой яна знаходзілася з 1919 года. Пэўныя зрухі ў адносінах да "рускага пытання" назіраліся і ў пазіцыі кіраўнікоў дзяржаў Антанты. 16 студзеня Вярхоўны савет Антанты па ініцыятыве Вялікабрытаніі змякчыў рэжым антысавецкай эканамічнай блакады, дазволіўшы саюзным і нейтральным дзяржавам абменьвацца на ўзаемнай аснове таварамі з РСФСР праз недзяржаўныя ўстановы (кааператывы і г. д.).

У пачатку снежня 1919 года VII Усерасійскі з'езд Саветаў прыняў рэзалюцыю, падкрэсліўшы, што "Расійская Сацыялістыч-

(Працяг на 5-й стар.).

ВЫКОНВАЮЧЫ МАТЧЫН ЗАПАВЕТ

## І АДГУКНУЛАСЯ Ў СЭРЦЫ СЛОВА

У Палачанскай сярэдняй школе, у якую хадзіў Міхась Казлоўскі, навучанне вялося тады на рускай мове. Некаторыя настаўнікі рабілі ўсё для таго, каб іх выхаванцы вучні не толькі добра адказвалі на ўроках па-руску, але і дома з бацькамі размаўлялі "пагарадскому". Відаць, не варта цяпер за гэта папракаць настаўнікаў, не ад іх такое ішло (як, дарэчы, і цяпер), але факт ёсць факт: у рэспубліцы ішоў насаджаны зверху працэс русіфікацыі.

Неяк, вярнуўшыся са школы, Міхась, вучань малодшых класаў, пачаў весці гаворку з маці на нязвыклай для вясковай жанчыны рускай мове, каб пахваліцца і паказаць, які ён стаў адукаваны. Маці слухала спярша ўважліва, а потым памяркоўна папрасіла:

— Сынок, гавары са мною панашаму, так будзе лепш. Бо ўсіх слоў расійскіх я не разумею. Ты спярша родную мову вывучы. Не трэба яе цурацца. Паглядзі, прыслухайся, ніхто са старэйшых палачанцаў сваёй мовы не цураецца. Ёю гаварылі твае продкі. Усе людзі, якія жылі да нас тут, у Палачанах. Не саромся нашай мовы. Шануй яе. І рускую ведай. Кожная мова добрая, але свая — даражэйшая. Бо родная...

Гэта запомнілася моцна. Неўзабаве памерла маці. Тады Міхасю было шаснаццаць гадоў. Застаўся ён круглым сіратою, бо бацька трагічна загінуў раней. Цяжка было падлетку аднаму, але дапамагалі, як маглі, суседзі, шчырыя простыя вяскоўцы. Скончыў школу, пра далейшую вучобу не думаў: адзін, хто ж паможа? Паехаў у Маладзечна, паступіў рабочым на завод "Спадарожнік", уладкаваўся ў заводскі інтэрнат. Адпрацуе — шмат вольнага часу. Каб яго не марнаваць, запісаўся ў бібліятэку, пачаў хадзіць туды кожны дзень, займаўся самаадукацыяй. Спачатку чытаў усё без разбору, але потым паступова прыахвоціўся да беларускай літаратуры. У выхадныя дні ездзіў у свае Палачаны. Цягнула да родных мясцін, да сваіх людзей, а найбольш — на магілы маці і бацькі.

Адзінокі, гадзінамі сядзеў каля матчынай магілы, чуў яе голас, мяккі, ласкавы, зычлівы. І згадваліся яе словы, сказаныя ў дзяцінстве пра родную мову. І цяпер яму здаецца, што ў тыя словы яна хацела закласці памацярынску мудры і нейкі глыбінны сэнс асабістага яго быцця. Можа, з продкамі, з ёю і бацькам, і павінна звязваць моўная повязь... Можа, наогул, па яе, матчыным разуменні, гэта і ёсць повязь і вечнасць пакаленняў.

Хутка сябры заўважылі, што на яго інтэрнацкім стале адна за адной пачалі з'яўляцца кнігі па гісторыі роднага краю, па этнаграфіі і фальклоры, мастацкія творы беларускіх празаікаў і паэтаў. У іх юнак, па яго прызнанні,

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*НАМІНАЦЫІ*

### ПАВЕЛ ШЫПУК — ЧАЛАВЕК ГОДА

**Кембрыджскі біяграфічны цэнтр назваў Чалавекам года Старшыню Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Паўла Шыпука. У паведамленні, прысланым з Англіі ў Мінск, гаворыцца, што гэта прэстыжнае званне "прысуджаецца абмежаванай колькасці выдатных асоб, чые дасягненні і кіруючая роля з'яўляюцца прыкладам для ўсяго міжнароднага супольніцтва".**

**Гэтым рашэннем праўленне вядучага ў свеце цэнтра па выданню біяграфічных даведнікаў адзначыла паспяховую дзейнасць Паўла Шыпука на пасадзе кіраўніка Савета Рэспублікі і яго актыўны ўдзел у развіцці міжнароднага супрацоўніцтва.**

*ЖЫВЕ ПАМЯЦЬ*

### ВЫДАТНЫМ СЫНАМ БЕЛАРУСІ

**Кіраўнікі Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў і Павел Шыпук 18 лютага наведалі могілкі па Маскоўскай шашы, дзе ўсклалі вянкі на магілы двух вядомых дзяржаўных і партыйных дзеячаў рэспублікі Васіля Казлова і Сяргея Прытыцкага. У гэты дзень Васілю Казлову споўнілася б 95 гадоў, а 85-годдзе з дня нараджэння Сяргея Прытыцкага адзначалася крыху раней.**

**Аддаць даніну памяці былым кіраўнікам дзяржавы прыйшлі прадстаўнікі Мінгарвыканкома, парламента, ветэранскіх і грамадскіх арганізацый. На цырымоніі прысутнічалі родныя і блізкія Васіля Казлова і Сяргея Прытыцкага.**

**У гэты ж дзень былі ўскладзены кветкі да мемарыяльных дошак, устаноўленых на дамах, дзе жылі Васіль Казлоў і Сяргей Прытыцкі.**



**80-годдзю Пятра Машэрава былі прысвечаны шматлікія мерапрыемствы на радзіме гэтай неардынарнай асобы, у мясцінах, дзе ён працаваў. У сталіцы прайшоў урачысты сход, кіраўнікі сённяшняй Беларусі ўсклалі кветкі да помніка на магіле П. Машэрава, што на Маскоўскіх могілках Мінска.**

*Я. ЯНІШЧЫЦ — 50*

### ПРЫСВЯЧАЕЦЦА «ПАЛЕСКАЙ ЛАСТАЎЦЫ»

**Пінскі райвыканкам зацвердзіў мерапрыемствы ў гонар 50-годдзя з дня нараджэння вядомай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц, якое будзе адзначацца сёлета.**

**Прадугледжваецца правядзенне літаратурных вечароў, раённага свята паэзіі, дабраўпарадкаванне памятных месцаў у вёсках Рудка і Парэчча, што звязаны з творчай дзейнасцю "палескай ластаўкі" — такназываў Яўгенію Генадзь Бураўкін.**

**Мяркуецца, што імя Янішчыц будзе прысвоена адной з гарадскіх вуліц, а на яе радзіме адкрыецца Дом-музей.**

*МАГІСТРАЛЬ*

### АД ПАРЫЖА ДА ЧУКОТКІ

**Даўняя ідэя аб стварэнні адзінай транспартнай магістралі Парыж — Нью-Йорк набывае рэальныя контуры. Яна злучыць Гамбург, Мінск, Маскву, Сібір і Берынгаў праліў. Працягласць дарогі можа скласці больш за 18 тысяч кіламетраў.**

**Гэтая траса мае вялікі інтарэс для многіх краін, таму што здольная забяспечыць больш кароткую сувязь Еўропы з Азіяй замест існуючага цяпер шляху праз Індыю, Іран, Турцыю.**

**Як паведамілі ў Камітэце па аўтамабільных дарогах, у расійскіх транспартных сферах ужо маецца распрацоўка праекта ўчастка гэтай магістралі — мяжа Беларусі — Масква — Далёкі Усход. Падлічана, што на ёй неабходна пабудаваць 2 750 кіламетраў дарог і рэканструяваць 5 830 кіламетраў існуючых. Усе гэтыя работы ацэньваюцца ў 10 мільярдаў долараў.**

*АБАРОНЦАМ АЙЧЫНЫ*



**Напярэдадні дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў уручыў юбілейныя медалі "80 год Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь" 28-мі Героям Савецкага Саюза і двум поўным кавалерам ордэна Славы і военачальнікам, якія жывуць цяпер у Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: пасля ўручэння ўзнагарод.**

*ЦЭНЫ*

### РЭКОРД ПАСТАВІЛА... ЦЫБУЛЯ

**У першы тыдзень лютага яўна ўзраслі тэмпы росту цэн на спажывецкія тавары і паслугі ў адносінах да мінулага месяца. Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, за тыдзень цэны павялічыліся на 1,4 працэнта. У студзені гэты паказчык складаў толькі 3,9 працэнта.**

**Пры гэтым кошт асноўных прадуктаў харчавання, якія займаюць асноўнае месца ў спажывецкай карзіне, з пачатку лютага не зведаў значных змяненняў. Свініна, мяса птушкі, крупы, цукар, алей і масла, яйкі курыныя, пшанічная мука, хлеб жытні падаражэлі ў сярэднім на 1—1,2 працэнта.**

**У той жа час спажывецкія цэны, якія не падлягаюць дзяржаўнаму рэгуляванню, раслі з апярэджаннем графіка. Напрыклад, агародніна падаражэла на 107,8 працэнта. Нечаканым "рэкардсменам" стала цыбуля рэпчатая. У студзені цэны на яе павысіліся на 33, а ў пачатку лютага яшчэ на 14,3 працэнта. Цэны на прамысловую прадукцыю бытавога прызначэння павялічыліся менш чым на адзін працэнт. А кошт паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі застаецца нязменным са снежня мінулага года.**

*АДВЕСЦІ ПАГРОЗУ*

### ПУНКТЫ ДЛЯ НАРКАМАНАЎ

**За мінулыя дзесяць гадоў у Мінску было афіцыйна зарэгістравана 180 ВІЧ-інфіцыраваных, з іх 88 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі зарэгістравана ў 1997 годзе.**

**Па прагнозах спецыялістаў, сітуацыя з распаўсюджваннем ВІЧ-інфекцыі ў гэтым годзе ў Беларусі будзе пагаршацца. Як вядома, сёння асноўным ачагом такога хуткага яе распаўсюджвання з'яўляецца асяроддзе шпрыцавых наркаманаў. У сталіцы, па інфармацыі спецыялістаў, на ўліку стаяць 770 наркаманаў, аднак сапраўдная іх колькасць прыкладна ў 10—12 разоў большая. Каб пазбегнуць далейшага пагаршэння сітуацыі з распаўсюджваннем ВІЧ-інфекцыі, у Мінску плануецца адкрыць некалькі пунктаў абмену шпрыцаў для наркаманаў.**

**Два падобныя абменныя пункты ўжо створаны і дзейнічаюць у Светлагорску (Гомельская вобласць), які з'яўляецца ачагом шпрыцавай наркаманіі і распаўсюджвання віруса ВІЧ. Толькі за паўгода ў двух пунктах Светлагорска зарэгістравана больш чым 8 тысяч наведванняў, абменена 18 тысяч шпрыцаў.**

*СЕНСАЦЫЯ*

### ЖАРТ ПРЫРОДЫ

Калгас "Парыжская Камуна" Касцюковіцкага раёна, які спецыялізуецца на малочнай жывёлагадоўлі, стаў месцам сенсацыі раённага маштабу. Тут нарадзілася цяля з пяццю капыткамі. Дадатковы капыток у тыле быў размешчаны на спіне, прыкладна на дзве трэці ад галавы.

Старшыня калгаса Віталь Грышанаў лічыць, што гэта хутчэй за ўсё "жарт прыроды", а не вынік радыяцыі, бо "Парыжская Камуна" знаходзіцца на радыяцыйна не забруджанай тэрыторыі.

Урач ветэрынарнай службы раёна выказала сваё меркаванне: мутацыя, магчыма, магла ўзнікнуць у выніку спажывання жывёлай кармоў, якія завозяць з зоны, калі сваіх не хапае.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

БЕЛАРУСКІ дзіцячы фонд узнагароджаны Ганаровай граматай Савета Міністраў Беларусі за вялікі ўклад у вырашэнне пытанняў па абароне правоў і інтарэсаў дзяцей Рэспублікі Беларусь.

ВІЦЕБСКАМУ дзяржаўнаму універсітэту, якому неўзабаве споўніцца 80 год, прысвоена імя Пятра Машэрава. Тут некалі вучыўся Пётр Машэраў. Двум выдатнікам-студэнтам уручаны пасведчанні аб прысваенні машэраўскай стыпендыі.

ЧЫГУНАЧНЫЯ войскі Беларусі сёлета павінны абазначыць на мясцовасці 58 кіламетраў беларуска-літоўскай граніцы ў раёне пагранічнага пункта "Гудагай". Гэта будзе іх першы вопыт па дэмаркацыі дзяржаўнай граніцы.

НА ВЫРАШЭННЕ маладзёжных праблем дзяржава летась выдзеліла з бюджэту 7 мільярдаў рублёў, сёлета будзе выдаткавана ўжо 20 мільярдаў, а на 1999 год плануецца аж да 140 мільярдаў рублёў.

ГЕНЕРАЛЬНЫ дырэктар Беларускага металургічнага завода Юрый Феакціствў стаў пераможцам конкурсу "СНД: дырэктар года", аб'яўленага расійскай агульнанацыянальнай прамысловай газетай "Рабочая трибуна". Расказ пра дырэктара з беларускага горада Жлобін будзе апублікаваны ў кнізе "Сто лідэраў прамысловасці і навукі Садружнасці".

*ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ*



**Юля ІСАЧЭНКА вучыцца дома. Яна хворая. Да яе прыходзяць настаўнікі з сярэдняй школы № 33 горада Магілёва. Шмат увагі і клопату дзяўчынцы ўдзяляе музычны работнік школы Таццяна ГАРБАЧЭЎСКАЯ. Юля піша вершы аб прыродзе, аб міры, аб людзях. А Таццяна Уладзіміраўна — музыку на іх. Так нараджаюцца песні. І спяваюць яны іх разам.**

*КАЛГАСЫ*

### РУЧНАЯ ПРАЦА

**За мінулы год на сельгаспрадпрыемствы рэспублікі паступіла каля 2,5 тысячы трактароў, 110 збожжаўборачных і 428 кормаўборачных камбайнаў, каля 30 бульбаўборачных агрэгатаў і 300 грузавых аўтамабіляў.**

**Нягледзячы на гэта, колькасць тэхнікі, якая спісвалася, за апошнія тры гады значна перавышае аб'ёмы набываемай.**

**На сёння, як сцвярджаюць спецыялісты Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання краіны, забяспечанасць сяла сродкамі механізацыі ўпала да ўзроўню 70-х гадоў. Разам з тым удзельная вага старой тэхнікі, што патрабуе неадкладнай замены, перавышае дваццаць працэнтаў.**

**У сувязі з незадавальняючым абнаўленнем машынна-трактарнага парка і недахопам спецыялізаваных механізмаў амаль дзве трэці работнікаў сельскай гаспадаркі заняты ручной працай.**

*ЛЮДЗІ І ЛЁСЫ*

# «ЧАРНОБЫЛЬ УСІХ НАС ПАРАСКІДАЎ...»

## 3. «ГАРАДЫ СОНЦА» НЕ З'ЯВІЛІСЯ. АЛЕ ЗРОБЛЕНА ВЕЛЬМІ МНОГА

**Паважаныя чытачы, у двух апошніх нумарах "Голасу Радзімы" вы прачыталі пра лёсы беларусаў, што трапілі пад чарнобыльскую навалу. Аварыя перакрэсліла іх ранейшае жыццё, вымусіла пакінуць родны дом і шукаць прытулку недзе ў іншых кутках Беларусі. Няпросты лёс, цяжкія выпрабаванні. Аблягчыць цяжкую долю, дапамагчы такім людзям, як і належыць, узялася дзяржава. Пра тое, як і што рабілася і робіцца для чарнобыльскіх перасяленцаў, у якім стане знаходзіцца гэтая справа сёння, расказвае намеснік начальніка ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Наталля КАХНОЎСКАЯ:**

— Адразу пасля аварыі, у 1986-м годзе, пачаўся першы этап перасялення — з зоны эвакуацыі, куды трапілі населеныя пункты Гомельскай вобласці, найбольш набліжаныя да эпіцэнтра катастрофы. Тады яшчэ, як памятаеце, існаваў СССР, і меркавалася, што фінансаванне гэтай акцыі будзе цэнтралізаванае і ў поўным аб'ёме: людзі цэлымі вёскамі пераедуць у новыя пасёлкі, створаныя на экалагічна чыстых тэрыторыях. Там планавалася абавязкова мець школу, дзіцячы сад, медыцынскую ўстанову, камбінат бытавога абслугоўвання, пэўны ўзровень добраўпарадкавання, нават тэлефонныя станцыі і, канешне ж, працоўныя месцы. Карацей, будаўніцтва з размахам — на 100 і больш дамоў. Кантраляваць усё павінны былі разнастайныя камісіі: ад Акадэміі навук, Савета Міністраў і, безумоўна, ад ЦК партыі, галоўнага па тых часах нашага кіраўніка.

Розных праектаў вылучалася шмат — і сваіх, і замежных, у тым ліку нямецкіх, дзе і чалавек, і свінка, і карова — усе пад адным дахам. Можа для Германіі такі варыянт і звычны, але для нас абсалютна непрымальны. На новым месцы, там, дзе магчыма, неабходна было ствараць перасяленцам умовы, максімальна набліжаныя да звыклых, каб "перасадка" з аднаго месца ў іншае праходзіла не балюча. Людзі з паўднёвых раёнаў з урадлівымі землямі нярэдка вымушаны былі пераязджаць на тую ж небагатую Віцебшчыну, Міншчыну...

Аднак, калі напачатку "чарнобыльцаў" стараліся перасяляць пасёлкамі, то досыць хутка пайшло — каго куды. Газеты пісалі, у якіх вёсках, калгасах ёсць свабодныя месцы... Многія зрываліся і ехалі, аказваліся адны сярод чужых... Гэта таксама нараджала сацыяльную напружанасць, тым больш, ці не ўсе мы тады яшчэ не разумелі, што такое на самай справе радыяцыя, радыяцыйнае забруджанне. З-за падобнага няведання, непісьменнасці ўзнікала нямала канфліктных сітуацый, калі новыя суседзі літаральна баяліся перасяленцаў, ставіліся да іх, нібы да пракажоных.

Асабліва вялікія складанасці, чыста фінансавыя, матэрыяльныя, сталі ўзнікаць пасля развалу Саюза. З новымі пасёлкамі — такімі "гарадамі сонца" прыйшлося прыпыніцца. Сталі будавацца ў існуючых вёсках, дзе ўжо склалася неабходная інфраструктура. Нямала жылля выдзялялі для перасяленцаў гарады. Напрыклад, у Мінску — больш за 5,5 тысячы кватэр. Яны вылучаліся мэтанакіравана: адзінокім пенсіянерам, сем'ям з вельмі хворымі дзецьмі, дзецьмі-інвалідамі, карацей, тым, хто меў патрэбу ў пастаяннай медыцынскай дапамозе, якую магла забяспечыць сталіца.

Ішло будаўніцтва і ў невялікіх гарадках — Лагойску, Крупках і г. д. Напачатку ўсе гарадскія чэргі на атрыманне жылля пераносіліся "на потым", кватэры аддаваліся перасяленцам, якія страцілі ўсё. Прычым будаваліся яны за кошт мясцовых бюджэтаў, якім абяцалася кампенсацыя. Для перасяленцаў існаваў парадак пазачарговага забеспячэння асноўнымі рэчамі хатняга ўжытку: на той час у магазінах назіраўся страшэнны дэфіцыт усіх тавараў. Але, зразумела, вытрымаць падобны цяжар мясцовыя бюджэты не маглі, і, пачынаючы з 1992 года, жыллё для перасяленцаў узводзіцца за грошы, якія афіцыйна называюцца "сродкі, накіраваныя на пераадоленне наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС". Увогуле зараз аб'ёмы будаўніцтва значна зменшаны. А для людзей, якія выехалі з зоны, але не рэалізавалі сваё права на забеспячэнне жыллём, а таксама для інвалідаў па 18-му артыкулу, г. зн. — інваліднасць, непасрэдна звязаная з чарнобыльскай катастрофай, з тым, што людзі жылі на забруджанай тэрыторыі, будаўніцтва кватэр працягваецца.

Калі праблему можна будзе "закрыць"? Не ведаю. Інваліды па 18-м артыкуле з'яўляюцца і з'яўляюцца. На 1 студзеня 1998 года 1090 дзетак мелі "чарнобыльскую" інваліднасць. На вялікі жаль, іх колькасць увесь час павялічваецца, і вельмі крыўдна, што нярэдка дапамога зацягваецца, будаўніцтва кватэр вядзецца марудна, а час для такіх людзей ляціць асабліва хутка. Многіх я ведаю асабіста: яны прыходзяць, тэлефануюць. Летась я ішла ў адпачынак — зайшла да мяне жанчына-перасяленка Ніна Мікітаўна, пыталася, калі ж нарэшце тая кватэра дабудуецца. Я супакойвала яе, абяцала: не хвалюйцеся, калі не зараз, то ўвосень абавязкова... Вярнулася з адпачынку — прыходзіць даведка: Ніны Мікітаўны няма. Вось і ўсё. Не дачакалася...

Канешне, праблем, драм, а, здараецца, і трагедый з перасяленнем і ў перасяленцаў хапае. Гэта і не дзіўна: паспрабуйце за даволі кароткі тэрмін адарваць ад каранёў, паревезці на новае месца жыхарства больш за 130 тысяч чалавек. Часам сітуацыю ўскладняюць абставіны, якіх ніхто і не чакаў. Напрыклад, на Гродзеншчыне. Там жа шмат католікаў, каталіцкіх храмаў. Прыязджаюць праваслаўныя — а царквы няма. На першы погляд — знайшлі праблему. Але толькі на першы погляд. Калі ўлічыць той псіхалагічны стан, у якім знаходзяцца перасяленцы, іх надзвычайнае эмацыянальнае і фізічнае напружанне, адсутнасць царквы можа зрабіцца (і рабілася) прычынай моцнага жыццёвага дыскамфорту.

А як людзі, пераехаўшы ў горад, сумуюць па сваіх гаспадарках, агародах! У Мінску ды іншых вялікіх гарадах, калі ёсць магчымасць, ім выдзяляюць невялікія "лапікі" зямлі пад нейкую гародніну. Дык тыя новаспечаныя гарадскія пенсіянеры тады літаральна ажываюць, кожную раслінку выпесцяць. Але іншым часам псіхалагічны надлом бывае такім моцным, што аднавіць нармальнае жыццё проста немагчыма. Зноў жа, прыходзіла да мяне на прыём нядаўна пара — муж з жонкай. Калі здарылася аварыя, яны, маладая сям'я, толькі-толькі дабудавалі ўласны дом — засталося ганак дарабіць. Дзяцей не завялі, чакалі, пакуль завершыцца будаўніцтва: хацелі, каб дзіця трапіла ўжо ў нармальныя ўмовы. І вось тут "ірванула". Дом апынуўся ў зоне забруджанасці вышэй за 40 кюры. Усё давялося кінуць. І тая сям'я па сённяшні дзень нідзе не асела — не можа знайсці месца, дзе было б так добра, як дома... Жыццё практычна зламана. Застаўся адзін боль...

Але будзе несправядліва казаць толькі пра няшчасці і неўладкаванасць. Вельмі многія людзі прыжыліся на новых месцах, працуюць, задаволены. Нядаўна я была ў Смалявіцкім раёне. Там у вёсцы Алесіна створаны цудоўны пасёлак, дзе жыве каля 40 сем'яў перасяленцаў. Дамы газіфікаваныя, працуе амбулаторыя, створаны рабочыя месцы. Адна бабка кажа: раней, там, я жыла ў халупе, а тут у мяне ў хаце і цёпла, і гарачая вада... Праблемы ёсць, але гэта не агульнае правіла.

Многія перасяленцы маюць пасведчанні "ліквідатараў", бо падчас аварыі, жывучы ў зоне, прымалі ўдзел у дэзактывацыйных работах, перавозцы розных грузаў. Яны праходзяць дыспансерызацыю, пры неабходнасці накіроўваюцца ў медыцынскі цэнтр "Аксакаўшчына", у Навукова-даследчы інстытут радыяцыйнай медыцыны.

Сёння ў зоне забруджання вышэй за 15 кюры на квадратны кіламетр пражывае больш за 20 тысяч чалавек — 8 тысяч сем'яў. Там шмат бежанцаў з іншых рэспублік былога СССР, у асноўным паўднёвых. Але па нашых законах, чалавек, які прыехаў у зону пасля 1 студзеня 1990 года, не мае права на перасяленне за кошт дзяржавы, бо зрабіў гэта па ўласным жаданні, ведаючы, куды едзе. Дарэчы, па закону, у зоны першачарговага і наступнага адсялення ўезд для пражывання без спецыяльнага дазволу органаў аховы здароўя і мясцовых Саветаў забаронены. Вось толькі не ўсе з гэтай забаронай лічацца, рызыкуючы сваім здароўем і здароўем блізкіх.

Я часта бываю ў зоне. І калі едзеш і бачыш уздоўж дарогі забітыя вокны калісьці жывых хат — гэта заўсёды балюча... Можа яшчэ і таму, што думаю: мае ж бацькі таксама доўга будаваліся, столькі сіл і здароўя паклалі. Не дай Бог, і іх вось таксама сарвала б з роднага дома і кудысьці панесла жыццёвая віхура...

*Людзі і лёсы. Якое складанае перапляценне нярэдка тут адбываецца. Якія нечаканыя іспыты, здараецца, рыхтуе нам жыццё. Але ж і мы, "чалавекі", не павінны заставацца проста пасіўнымі ахвярамі абставін. Таццяна Гаманкова, Святлана Юшчанка, Наталля Кахноўская... Цудоўныя, прыгожыя, моцныя жанчыны. Вельмі розныя, але і надзвычай падобныя — падобныя ў сваёй дабрыні, спагадзе і жыццёвай чысціні.*

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# НА ЛЯЧЭННЕ ЗА МЯЖУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

маюць права пісаць хадайніцтва старшыні камісіі з просьбай разгледзець гэтае пытанне. У загадзе канкрэтна сфармулявана, што падставай для разгляду пытання аб накіраванні хворага для лячэння за рубеж павінна быць наяўнасць жыццёвых паказчыкаў, выкарыстанне ў адносінах да хворага ўсіх дазволеных і прымяняемых метадаў лячэння ў лячэбна-прафілактычных установах рэспублікі, прымяненне ў краіне, дзе мяркуецца правесці лячэнне, дадатковых ці новых метадаў лячэння і дыягностыкі і наяўнасць дакладных станоўчых вынікаў ад мяркуемага лячэння, заснаваных на пэўных даных — навуковых прац, афіцыйных публікацый, якія даюць упэўненасць у тым, што паспяховае лячэнне магчымае і грошы не будуць патрачаны ўпустую. Для вырашэння гэтых пытанняў камісія збіраецца штомесяц, аднак у выпадках, калі ёсць жыццёвыя паказчыкі, камісія можа быць сабрана для разгляду аднаго канкрэтнага выпадку.

Часцей за ўсё на лячэнне за рубеж адпраўляюцца хворыя з анкалагічнымі захворваннямі вачэй. Яшчэ пяць-дзесяць гадоў назад Масква лічылася галоўным у былым СССР анкаафтальмалагічным цэнтрам. Акрамя таго, там размяшчаўся навукова-даследчы інстытут хвароб вачэй імя Гельмгольца, там традыцыйна было лепшае аснашчэнне, абсталяванне і, адпаведна, вопыт работы. Там рабілі органазахоўныя аперацыі ў тых выпадках, калі ў нас выдаленне хворага вока было проста непазбежным. Тое ж самае прасочвалася ў адносінах аператыўнага лячэння сардэчна-сасудзістых захворванняў. Ужо многа гадоў у Маскве існаваў інстытут сардэчна-сасудзістай хірургіі імя Бакулева і інстытут трансплантaлогіі штучных органаў. У Мінску на добрым медыцынскім узроўні ажыццяўляюцца аперацыі па трансплантацыі ныркі, што тычыцца перасадкі сэрца, то ў гэтым выпадку хвораму рэкамендуецца звяртацца ў Маскву: у Мінску такіх аперацый не робяць. Кошт аперацыі па перасадцы сэрца ў Маскве даходзіць да 100 тысяч долараў. Падобная аперацыя ў далёкім замежжы каштуе ў два разы больш. Міжволі ўзнікае пытанне — а ці не выгадней стварыць у Беларусі ўласны рэспубліканскі кардыяхірургічны цэнтр па правядзенні падобных аперацый? Кошт іх у Маскве вельмі і вельмі высокі, а колькасць цяжкіх сардэчна-сасудзістых паталогій імкліва расце.

Аднак не толькі беларусы могуць паправіць сваё здароўе за мяжой, з гэтай жа мэтай у Беларусь едуць і расіяне. Так, пацыента з-за мяжы на платнай аснове будзе прымаць нядаўна адкрыты і аснашчаны на сусветным узроўні гематалагічны цэнтр. Прыязджаюць на лячэнне і ў наш інстытут неўралогіі, інстытут анкалогіі, высока каціруюцца і беларускія нейрахірургі. Іншы раз у Беларусь прыязджаюць з Арменіі, Украіны, Расіі ці з іншых краін таму, што аперацыя тут абыходзіцца танней, чым дома.

Апошнім часам колькасць заяў на аказанне медыцынскай дапамогі за межамі рэспублікі ўзрасла. Што тычыцца саміх накіраванняў на лячэнне за рубеж па лініі Міністэрства аховы здароўя, то іх колькасць ужо некалькі гадоў знаходзіцца на адным і тым жа ўзроўні. Так, у 1996 годзе было прынята 116 станоўчых рашэнняў, з іх у краіны далёкага замежжа на лячэнне быў накіраваны 41 чалавек, астатнія адправіліся ў Прыбалтыку, Украіну і больш за ўсё ў Расію. Камісія разглядае нават тыя выпадкі, калі на лячэнне грошы выдзяляюць знойдзеныя хворымі ці іх сваякамі спонсары. У прыватнасці, каб адкрыць дабрачынны рахунак для збору грошай на лячэнне за мяжой, неабходны дазвол камісіі Міністэрства аховы здароўя, што ў сваю чаргу выключае магчымасць вымагальніцтва грошай у даверлівых грамадзян. А калі грошы ўсё-такі сабраны, банк ажыццяўляе кантроль за тым, каб яны былі патрачаны выключна на медыцынскія мэты.

Хворых з Беларусі адпраўляюць на лячэнне не толькі ў Расію, але і ў далёкае замежжа. Парадак адпраўлення такі ж, як і ў Расію, асноўны крытэрый — мэтазгоднасць. Іншы раз проста прымаецца рашэнне накіраваць хворага на лячэнне за межы рэспублікі, і тады Упраўленне знешніх сувязей Міністэрства аховы здароўя робіць накіраванне як мінімум у тры замежныя цэнтры, якія згодны прыняць нашага хворага на лячэнне, параўноўваецца кошт і спектр прапаноўваемых паслуг і прымаецца адпаведнае рашэнне. Ці варта гаварыць, што лячэнне ў такіх выпадках, як правіла, каштуе вельмі і вельмі дорага, аднак ёсць прыклады, калі ў замежных клініках згаджаліся лячыць нашых грамадзян па больш нізкіх, чым гэта прынята, цэнах.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

КАЗАЧНІК



**Рэчыцкім Андэрсенам ахрысцілі ў Рэчыцы Анатоля Караленку, які прарабіў 27 гадоў нафтавіком і які сур'ёзна захапіўся стварэннем казак пра нафту. Усяго іх напісана каля сямідзесяці, і выдадзены яны ў шасці кніжках, уключаны ў дзіцячыя падручнікі, такія, як "Чалавек і свет".**

**НА ЗДЫМКУ: Анатоль КАРАЛЕНКА са сваімі кніжкамі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## У ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА» АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ГРАМАДСКАГА САВЕТА

# ВЫРАТУЮЦЬ НАС ЛУЧНАСЦЬ І ЗГОДА

Са складанай эканамічнай, сацыяльнай, культурнай і псіхалагічнай сітуацыяй сёння сутыкаюцца нашы суайчыннікі, якія жывуць у новых незалежных дзяржавах, што ўзніклі на тэрыторыі былога СССР. І, безумоўна, яны маюць патрэбу ў дапамозе і падтрымцы сваёй Бацькаўшчыны.

Дапамога гэта аказваецца перш за ўсё на падставе двухбаковых пагадненняў, шляхам прыняцця мер, узгодненых з органамі дзяржаўнай улады адпаведнай краіны.

Выкарыстоўваюцца таксама магчымасці няўрадавых арганізацый у напрамку развіцця дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". Вызначана ў гэтай праграме і месца Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Адным з прыярытэтных накірункаў у дзейнасці таварыства "Радзіма" стала выкананне ролі грамадскага сувязнога звяна паміж дзяржаўнымі структурамі Беларусі і беларускімі арганізацыямі ў блізкім замежжы. Для больш эфектыўнага выканання гэтага пры таварыстве "Радзіма" існуе Грамадскі савет, у складзе якога — прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх структур, што зацікаўлены ў развіцці і ўмацаванні сувязей з беларусамі замежжа.

У чарговым пасяджэнні Грамадскага савета, што адбылося ў пачатку лютага, удзельнічалі прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і Савета Міністраў, асобных ведамстваў, кіраўнікі грамадскіх аб'яднанняў краіны, дзеячы культуры, навукоўцы. Былі запрошаны таксама шматлікія госці — кіраўнікі суполак нашых землякоў у Расіі, Арменіі, Латвіі, Літве, Эстоніі, на Украіне і ў Прыднястроўі.

Адкрываючы пасяджэнне, намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма" Уладзімір Мялешка адзначыў, што ў свядомасці людзей апошнім часам запанаваў больш аб'ектыўны погляд на праблему эміграцыі. Каштоўнасць для Бацькаўшчыны ўяўляе кожны беларус, які цягнецца душой да Радзімы, адстойвае яе інтарэсы. Менавіта з гэтага зыходзіла і зыходзіць у сваёй дзейнасці таварыства "Радзіма".

На сённяшні дзень таварыства ажыццяўляе сувязі з дзесяткамі суполак беларусаў у краінах блізкага замежжа. Сярод іх — "Беларусы Сібіры" ў г. Новасібірску, Таварыства беларускай культуры імя Чэрскага ў г. Іркуцку, нацыянальна-культурны цэнтр беларусаў Башкартастана, суполкі беларусаў у Маскве і ў Санкт-Пецярбургу. Летась з'явіліся новыя арганізацыі нашых суайчыннікаў на Украіне. І не без дапамогі "Радзімы".

Наладжваецца супрацоўніцтва і з беларусамі Прыднястроўя. Таварыства "Радзіма" дапамагала ім, напрыклад, у падрыхтоўцы і правядзенні "Свята беларускай культуры". Выступленні на ім фальклорнага вакальна-харэаграфічнага калектыву "Вязынка", як і гастролі нашых салістаў, ускалыхнулі ў беларусаў Цірaспаля, Бендэр, Днястроўска пачуццё нацыянальнай самасвядомасці, гордасці за нацыянальнае мастацтва.

Развіваюцца сяброўскія сувязі як з беларусамі ў суседніх Літве, Латвіі і Эстоніі, так і ў далёкіх Кыргызстане і Арменіі. Працягваецца плённае супрацоўніцтва і з беларусамі, якія жывуць у Польшчы, у прыватнасці, з Беларускім грамадска-культурным таварыствам і Грамадскім камітэтам па будаўніцтву "Музея беларускай культуры і асяродка" ў г. Гайнаўцы. Несумненна, добрай падставай для далейшай работы ў гэтым накірунку з'яўляецца праграма падтрымкі нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў у Польшчы, зацверджаная Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.

Можна і далей працягваць пералік зробленага, але хацелася б засяродзіць увагу на некаторых праблемах, зазначыў У. Мялешка.

Адносна курсаў мастацкай самадзейнасці.

Традыцыйна таварыства "Радзіма" штогод запрашае кіраўнікоў самадзейных калектываў з розных краін і сумесна з Міністэрствам культуры праводзіць курсы на базе Інстытута праблем культуры. Працавалі такія курсы і летась. Слухачамі іх былі беларусы з Польшчы, Расіі, Украіны, Малдовы, Кіргізіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы.

Упершыню за ўсю гісторыю правядзення курсаў мы сутыкнуліся з такім фактам: былі сярод курсантаў людзі, далёкія ад самадзейнасці. Харошыя людзі, актыўныя, але, як кажуць, не па профілю. Іх цікавілі больш пытанні маркетынгу, бартэру і г. д. Таму хацелася б звярнуцца да прысутных тут кіраўнікоў суполак нашых суайчыннікаў: "Калі ласка, на курсы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці дасылайце людзей, што працуюць у гэтым накірунку".

А мы, са свайго боку, таксама зрабілі вывад: ёсць патрэба расшырэння спектра курсаў, не абмяжоўвацца толькі мовай і культурай. Трэба падключаць для вырашэння праблемы і іншыя навучальныя ўстановы.

Адпачынак дзяцей. Летась, упершыню за апошнія 5—6 гадоў, таварыства "Радзіма" зноў прыняло групу дзяцей нашых суайчыннікаў. Гэта былі дзеці з Уфы. Адпачывалі яны ў аздараўленчым лагеры "Энергетык". І дапамог нам у гэтым член Грамадскага савета, дырэктар Мінскіх электрасетак Мікалай Шманай.



Але жадаючых адпачыць у Беларусі значна больш. Варта падумаць, як аб'яднаць нашы намаганні, каб вырашыць і гэту праблему.

Не буду спыняцца падрабязна на некаторых пытаннях пераадолення межаў. Што робіць Польшча на мяжы з Беларуссю, ведаюць усе. Пра гэта гавораць, пішуць, паказваюць. Можа ў выніку сітуацыя, хоць і не адразу, але зрушыцца да лепшага. Будзем спадзявацца. А вось тое, што, скажам, інфармацыйная прастора перакрываецца на межах з братняй Украінай, гэта ўжо нядобра. Давайце разам думаць, як выпраўляць становішча. Патрэбны не толькі дзеянні афіцыйных улад, але і ініцыятыва грамадскасці. А пачаткам можа быць свята славянскай пісьменнасці. Чаму б яго не правесці сумесна? Думаю, што нашы суайчыннікі на Украіне, ды і ў Расіі падтрымаюць такую ініцыятыву, — падкрэсліў У. Мялешка.

Разам з канкрэтнымі ёсць у рабоце з замежнымі суайчыннікамі і пытанні больш агульнага плана. Скажам, да гэтага часу няма, на жаль, юрыдычна дакладнага вызначэння, што такое "зарубежны суайчыннік". Патрабуе ўвагі і сама канцэпцыя работы з суайчыннікамі замежжа.

Намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Іван Яновіч падрабязна гаварыў аб рабоце над праектам закона "Аб дзяржаўнай палітыцы ў адносінах да суайчыннікаў, якія жывуць за рубяжом". Прыгадаў падпісанне летась пагаднення з Рэспублікай Малдова аб узаемнай падтрымцы правоў нацыянальных меншасцей. Такія ж дакументы будуць падпісаны з Украінай, вядуцца перамовы з дзяржаўнымі структурамі Расіі.

Асаблівай увагі заслугоўваюць фарміраванне сумесна са Скарынінскім цэнтрам банка даных "Беларусы ў свеце", а таксама стварэнне энцыклапедычнага даведніка "Беларускае замежжа".

І. Яновіч спыніўся таксама на праблеме стварэння сістэмы інфармацыйнага забеспячэння.

Не абышоў ён і праблемы школы.

— Трэба больш актыўна ствараць за мяжой беларускія школы, — зазначыў І. Яновіч. — Будзе школа, будзе беларуская прысутнасць.

Цікавай падалася прысутным прапанова Віктара Рамановіча, кіраўніка Рэспубліканскага нацыянальна-культурнага цэнтра беларусаў Башкартастана, — правесці ў горадзе Уфе сход кіраўнікоў беларускіх суполак Расіі. Мэта сходу — усталяванне больш цеснага кантакту паміж беларусамі, што жывуць у Расіі, і выпрацоўка адзінага падыходу ў адлюстраванні сучаснага становішча ў Беларусі.

Яго актыўна падтрымала старшыня рэспубліканскай арганізацыі беларусаў Прыднястроўя Ганна Лапацьева. А вось старшыня таварыства імя Ф. Скарыны ў Маскве Генадзь Лех не менш горача даказваў, што "калі ўжо і праводзіць сустрэчу беларусаў Расіі, то лепей у сталіцы".

Удзельнікі Грамадскага савета рэкамендавалі ўхваліць ініцыятыву аб сустрэчы кіраўнікоў беларускіх суполак у Расіі. Месца правядзення будзе ў значнай ступені залежаць ад магчымасцей фінансавага забеспячэння з боку мясцовых улад.

У адрозненне ад многіх кіраўнікоў "маладых" суполак беларусаў старшыня таварыства нашых суайчыннікаў у літоўскім горадзе Шальчынінкаі Пётр Малафей мог пахваліцца добрай матэрыяльнай базай: маем усё — ад аўтамабіля да камп'ютэра. Нашага земляка больш непакоіць, як адносяцца на Беларусі да "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга. Варта было б, на яго думку, захаваць іх гістарычны статус.

Ніна Савінава прыехала з Эстоніі. З горыччу канстатавала наша госця, што беларусы ў Эстоніі большыя патрыёты, чым у Беларусі.

— Нам не трэба дапамагаць матэрыяльна, — гаварыла яна. — Беларусь павінна падтрымаць 23 тысячы сваіх сыноў і дачок у Эстоніі маральна.

А кіраўнік беларускай арганізацыі ў горадзе Іркуцку Генадзь Соніч, канстатаваўшы, "ўсе мы выраслі з культуры", закрануў "чыстую" эканоміку: мэблю ў Іркуцк вязуць з далёкай Італіі, а беларуская ж не горшая. Ды і трыкатаж беларускі знайшоў бы свайго пакупніка ў Сібіры. Перашкаджаюць падаткі.

Яго падтрымаў і Васіль Самойленка з Харкава. "Варта даць магчымасць нашым прадпрымальнікам, — зазначыў ён, — актыўней гандляваць дзеля паляпшэння эканамічнай сітуацыі не толькі Украіны, але і Беларусі".

Прысутныя на пасяджэнні прадстаўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Гурко, дэпутат Нацыянальнага сходу Алег Гарбуноў, работнік апарата Савета Міністраў Уладзімір Ламека выказаліся па пытаннях, што ўзнімалі ўдзельнікі пасяджэння Грамадскага савета.

Падагульняючы ход дыскусіі, У. Ламека між іншым сказаў: "Лучнасць і згода выратуюць нас у свеце".

Гэты тэзіс як нельга лепш тычыцца дзейнасці і дзяржаўных структур, і грамадскіх арганізацый, у тым ліку таварыства "Радзіма", дзейнасці ўсіх нашых замежных суайчыннікаў.

У канцы пасяджэння яго ўдзельнікі аднагалосна адобрылі рэкамендацыі Грамадскага савета, скіраваныя на паляпшэнне работы з нашымі суайчыннікамі за рубяжом.

## НОВАЕ ВЫДАННЕ

# ФРЫДРЫХ ШЫЛЕР ПА-БЕЛАРУСКУ

Кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя Белдзяржуніверсітэта і Інстытут славістыкі Енскага універсітэта імя Ф. Шылера выдалі цудоўную як па зместу, так і па афармленню кніжку Фрыдрыха Шылера "Улада песняспеву". Паэтычныя творы на беларускую мову пераклаў Алег Лойка. Яны склалі першы раздзел кнігі, а ў другі, даследчы раздзел, былі ўключаны матэрыялы, напісаныя ў сааўтарстве з Гансам Аўэрсвальдам, у якіх даследуецца творчасць нямецкага паэта, драматурга, тэарэтыка мастацтва і гісторыка.

Наогул, як адзначае Ганс Аўэрсвальд, у беларусаў зараз павышаная цікавасць да Германіі ўвогуле і да яе паэзіі ў прыватнасці. Яшчэ ў 20-я гады да перакладаў з нямецкай паэзіі звяртаўся Юрка Гаўрук, які стаў у пасляваенны час патрыярхам беларускага перакладу. У 1981 годзе ў перакладзе Ю. Гаўрука выйшлі ў Мінску "Балады" Фрыдрыха Шылера. П'есы яго на беларускую мову перакладалі ў свой час Кузьма Чорны, Васіль Сёмуха, Алесь Дудар, асобныя вершы і балады перакладалі М. Багдановіч, П. Панчанка, М. Лужанін, Н. Мацяш і іншыя беларускія пісьменнікі. Таму выхад кнігі "Улада песняспеву" — гэта першая спроба адначасовага і даследавання, і перакладу паэзіі вялікага нямецкага песняра Фрыдрыха Шылера на беларускую мову.

Алег Лойка не навічок у перакладчыцкай дзейнасці. На беларускую мову ён пераклаў творы П. Верлена, Р. Гамзатава, Г. Эміна, Зульфіі, а таксама кнігу І. В. Гётэ "Спатканне і ростань" (1981 год). У кнігу "Улада песняспеву" перакладчык уключыў і лепшыя творы Шылера. Сярод іх паэма "Песня аб звоне", балады "Ныpэц", "Рыцар Тагенбург" і іншыя, шэдэўр "Песня аб звоне", які быў напісаны ў 1799 годзе, напрыканцы XVIII стагоддзя, ва ўмовах нашай сённяшняй Беларусі канца XX стагоддзя аказваецца ледзь ці не такім жа надзённым, як і дзвесце гадоў таму быў надзённым у Германіі. Чаму? Ды таму, мабыць, як піша Алег Лойка, што "шылераўская "Песня аб звоне" — гэта водгук нямецкага паэта на Вялікую Французскую рэвалюцыю, прытым адмоўны водгук, а не, як нам савецкая германістыка імкнулася прадставіць, выпадкова не станоўчы, памылкова не станоўчы. Вялікі нямецкі рамантык гэтай сваёй песняй якраз асуджаў тое, што мы сёння асуджаем у Кастрычніку":

**Дзе быў горад,**
**Зглішч дым волкі,**
**Вецер іх цярэбіць золкі,**
**А ў пустоце ніш аконных**
**Жах прыжыўся,**
**Што аж хмараў гурт**
**здзівіўся**
**З вышыні.**

Другі раздзел — даследчы. Алег Лойка і Ганс Аўэрсвальд даюць адказы на пытанні: ці балада балада Шылера "Ныpэц", ці мужыцкая "Мужыцкая сэрэнада", ці нямецкая нямецкая балада? Вельмі цікавым атрымаўся дыялог двух даследчыкаў наконт асаблівасцей перакладу паэзіі Шылера на беларускую мову. З яго вынікае, што ў нямецкай мове вельмі шмат слоў-блізнят беларускім: Meer — мора, Sturm — штурм, Turmen — турма, schwenden — швэндацца, Blick — блік і г. д. Таму перакладчык шмат увагі ўдзяліў перадачы агульнага гучання перакладу, гэта значыць гукапісу...

Наогул, кніга Фрыдрыха Шылера па-беларуску "Улада песняспеву" — яшчэ адна старонка ў нямецка-беларускай літаратурнай сувязі.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## «КУРЫ БАБЫ ЛІДЫ ПАРУШЫЛІ ГРАНІЦУ...»



"Куры бабы Ліды парушылі граніцу", — так пажартаваў Станіслаў Рымцаў, які жыве побач з бабкай, але ўжо за граніцай. Дамы іх размешчаны за 50 метраў адзін ад аднаго, а між імі працякае ручай, па якому праходзіць дзяржаўная мяжа. На адным баку — украінская вёска Дабранка, на другім — беларуская Паддабранка. І хаця на беларускім баку ўсяго з паўсотні дамоў, хлеба ў сельмаг прывозяць амаль цэлую машыну. На 10 украінскіх грывен у сябе можна купіць толькі "13 хлябоў", а памяняўшы іх на вакзале ў Дабранцы, у беларускім магазіне — аж 34! Таму і спяшаюцца ўкраінцы праз масток да прыезду хлебнага аўтамабіля. А калі па вечарах і раніцай адключаюць на гадзіну электрычнасць, то і — паглядзець мексіканскія серыялы на беларускай тэрыторыі.

Многія гады жылі тут людзі, не ведаючы, што такое мяжа — грошы былі адны, жаніліся, хрысцілі дзяцей, працавалі разам. І цяпер розніцы не адчуваюць, толькі вось у вялікай Дабранцы, дзе працавала многа беларусаў, пры скарачэнні штатаў выбар падае перш за ўсё на іх, нават калі гэта і жыхары ўкраінскай вёскі. У той жа час мноства дабранцаў працуе ў Гомельскім раёне і па сёння, з'яўляючыся жыхарамі іншай дзяржавы.

Добра толькі, што ўкраінскія пагранічнікі, якія дыслакуюцца ля дома бабы Ліды і нават частуюцца чайком у халодныя дні, не чыняць перашкод пры пераходзе мастка праз ручай, г. зн. праз дзяржаўную мяжу.

НА ЗДЫМКАХ: Лізавета ЗАЙЦАВА ў кіно на беларускую тэрыторыю не ходзіць, а раніцай і вечарам запальвае газоўку — у цемнаце ж сядзець нязручна; масток дружбы, што ператварыўся для ўкраінцаў у хлебны шлях.

**Фота і тэкст Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



*НАМ ПІШУЦЬ*

## НАЦЫЯНАЛІСТ—АД СЛОВА НАЦЫЯ

Родныя мясціны, дзе чалавек нарадзіўся і вырас, застаюцца ў памяці на ўсё жыццё, куды б ні закінуў яго лёс. Таму для многіх, якія жывуць па-за межамі іх маці-Беларусі, неабыякава тое, што адбываецца на іх бацькаўшчыне. Мінуў стары год, з надзеяй на лепшае мы ўступілі ў год новы. А вось праблемы нашыя застаюцца старымі. Не магу забыць: у памяці ўсё той жа санкцыянаваны пікет, які адбыўся ў Мінску на пачатку верасня з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы, дзе можна было прачытаць: "Беларускамоўныя школы ў Мінску: 1994 — 120, 1996 — 17, 1997 — 1". Вядома, беларуская мова сёння не патрэбна ні Варшаве, ні Маскве, яна патрэбна нам, незалежнай Беларусі. І калі гавораць, што ў нас руская і беларуская мовы роўныя, то гэта не так. Варта даўно ўжо падумаць, каб мы, беларусы, не выглядалі белаю варонаю ды не пачувалі сябе такімі смешнымі не толькі дома, а і ў свеце, калі гаворка заходзіць аб нашай мове.

Сёння ў Беларусі па старой звычцы шмат каго (асабліва ў эшалонах нашай улады) палохае слова нацыяналіст. А яно мае корань "нацыя". Скажам, нацыянальны гімн, тэатр, банк, нацыянальнае радыё, тэлебачанне і г. д. Нацыянальная культура, школа. Калі так, лічыце і мяне нацыяналістам, бо я люблю сваю родную мову і ганаруся тым, што я аўцюкоўскага роду, бо дзед мой быў з Аўцюкоў ды і прозвішча маё пашырана ў гэтых мясцінах. Але ж сёння не да жартаў ды гумару, калі мова наша другарадная, як і раней, а роўнасць папяровая. А мова — гэта ж бяспека і цэласнасць дзяржавы.

**Федар СЕВЯРЫН.**

Украіна,
г. Данецк.

***P. S.*** *У газеце "Голас Радзімы" ў нумары № 49 прачытаў паведамленне аб тым, што, выконваючы дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце", рэспубліканскае аб'яднанне "Белпошта" заключыла дагаворы на распаўсюджанне перыядычных выданняў Рэспублікі Беларусь за мяжой. Не ведаю, як у іншых краінах СНД, а вось на Украіне на "Голас Радзімы" падпісацца немагчыма, бо газеты ў каталогу няма. А гэта адзіная газета, якая яднае нас, беларусаў свету, нагадвае нам, адкуль ідуць нашы карані, чыйго мы роду, гэта тая самая газета, якая блізкая спадзяванням і думкам чытача.*

# ПАМІЖ ФРАНТАМІ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

...ная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка жадае жыць у міры з усімі народамі і накіраваць усе свае сілы на ўнутранае будаўніцтва, каб наладзіць вытворчасць, транспарт і грамадскае кіраванне на глебе сацыялістычнага ладу". 22 снежня 1919 года НКЗС РСФСР накіраваў польскаму боку радыёграму з прапановай неадкладна пачаць мірныя перагаворы. Аднак кіраўнікі Польшчы не жадалі міру з Савецкай Расіяй і рыхтаваліся да працягу баявых дзеянняў на Усходзе. Гарачым прыхільнікам актыўнай "усходняй" палітыкі з'яўляўся "начальнік" Польскай дзяржавы Ю. Пілсудскі. У студзені 1920 года ён выступіў за стварэнне своеасаблівай Лігі нацый для Усходняй Еўропы на чале з Польшчай, асноўнай задачай якой была б барацьба супраць бальшавізму. Пілсудскі быў упэўнены ў тым, што пашырэнне сферы ўплыву Польшчы на ўсходзе Еўропы будзе лёгкай справай, і катэгарычна адвяргаў сцвярджэнні аб баяздольнасці Чырвонай Арміі. У канцы 1919 — пачатку 1920 гадоў перад польскай дыпламатыяй была пастаўлена задача забяспечыць падтрымку ўзброенай акцыі Польшчы на Усходзе. Задача была нялёгкай. У канцы 1919 года кіраўнікі дзяржаў Антанты прынялі шэраг рашэнняў, якія рэгулявалі ўзаемаадносіны Польшчы з яе ўсходнімі суседзямі. На сустрэчы ў Лондане 12 снежня 1919 года прэм'ер-міністры Францыі і Вялікабрытаніі Ж. Клемансо і Д. Лойд-Джордж вырашылі "ўзмацніць Польшчу як бар'ер супраць Расіі", прадаставіўшы ёй неабходную матэрыяльную і фінансавую падтрымку, якая магла павысіць баяздольнасць польскай арміі. Разам з тым кіраўнікі дзяржаў Антанты рэкамендавалі кіраўнікам Польшчы абмежаваць усходнія граніцы сваёй дзяржавы лініяй, якая была вызначана Вярхоўным саветам Антанты 8 снежня 1919 года, і каардынаваць сваю дзейнасць з іншымі дзяржавамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Аднак польскае кіраўніцтва па сутнасці праігнаравала пажаданні кіраўнікоў дзяржаў Антанты, зрабіўшы выгляд, што вядзе барацьбу за свабоду суседніх народаў.

Важнае месца ў польскіх планах адводзілася супрацоўніцтву з палітычнымі плынямі Беларусі. Пасля няўдачнай спробы дасягнуць палітычнага кампрамісу з Радай БНР у снежні 1919 года Пілсудскі зрабіў вывад аб немэтазгоднасці кантактаў з усім спектрам беларускага руху і вырашыў падтрымліваць кантакты толькі з тымі яго элементамі, якія выказвалі лаяльнасць у адносінах да Польшчы. Зусім адкінуць ідэю аб супрацоўніцтве з беларусамі кіраўніцтва Польшчы не магло. Паводзіны польскіх войск на беларускай зямлі выклікалі незадаволенасць беларускага насельніцтва, якую фіксавалі не толькі праціўнікі Польшчы, але і польская разведка. Так, намеснік начальніка паста № 5 аддзела контрразведкі Літоўска-Беларускага фронту падпаручнік Кулак у данясенні камандаванню аддзела ад 27 студзеня 1920 года адзначаў, што беларускае насельніцтва абурана адсутнасцю дысцыпліны ў польскім войску, беспакаранымі рабункамі і рэквізіцыямі. Падобная думка прысутнічала і ў данясенні II аддзела камандавання 4-й арміі галоўнаму камандаванню войска польскага ад 28 красавіка 1920 года. У рапарце адзначалася, што першапачаткова насельніцтва Мінскай губерні сустрэла палякаў як вызваліцеляў, якія неслі з сабой законнасць, жыццёвую нармалізацыю, зніжэнне цэн і большую забяспечанасць, аднак пасля павелічэння ў вобласці колькасці салдат і звязаных з гэтым рэквізіцый адносіны насельніцтва да палякаў пагоршыліся. Стваральнікі данясення крытыкавалі кадравую палітыку польскіх акупацыйных уладаў, якія перадавалі польскім памешчыкам практычна ўсе пасады ў органах кіравання, і звярталі ўвагу на тое, што тыя сваёй помстай чэлядзі і сялянам, ухіленнем ад паставак і падвод, ліхвярскай здачай у арэнду зямель і масавым продажам спекулянтам лясоў выклікалі абурэнне не толькі беларускага сялянства, але і дробнай шляхты, павышаючы яе варожасць да Польшчы. Зыходзячы з гэтага, II аддзел рэкамендаваў галоўнаму камандаванню накіроўваць на адміністрацыйныя пасады на Беларусі больш "дасведчаных адміністратараў з сапраўды дэмакратычным светапоглядам і разуменнем указанняў і палітыкі Начальніка дзяржавы ў адносінах да ўсходніх ускраін", пайсці на аграрную рэформу і не падтрымліваць спроб польскага насельніцтва "крэсаў" паглыбіць антаганізм з мясцовымі жыхарамі праз заклікі як мага хутчэй далучыцца да Польшчы. У канцы 1919 — пачатку 1920 гадоў незадаволенасць перарасла ў рух супраціўлення. Узімку 1920 года партызанскія атрады антыпольскай арыентацыі дзейнічалі практычна па ўсёй тэрыторыі Беларусі, якая знаходзілася пад польскім кантролем.

Прапановы па наладжванню польска-беларускага супрацоўніцтва рыхтавалі і дзеячы, якія непасрэдна пражывалі на тэрыторыі Беларусі. Так, 30 снежня 1919 года група беларускіх дзеячаў на чале з Л. Дубяйкоўскім звярнулася да кіраўніка цывільнай адміністрацыі "крэсаў" Ю. Асмалоўскага з мемарандумам, у якім прапанавала стварыць пастаянны камітэт, які б займаўся беларускай праблематыкай. Таксама ў снежні 1919 года быў складзены мемарыял арганізацыйнага аддзела "Таварыства Стражы крэсавай", які быў прадстаўлены польскаму кіраўніцтву. У мемарыяле звярталася ўвага на рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і рабіўся вывад аб тым, што "беларускі рух не з'яўляецца ў такой меры штучным, якім яго часта прадстаўляюць, і калі ён і не вядзе да стварэння зусім адасобленай нацыі, усё ж такі ён можа абудзіць сярод абруселых мас насельніцтва поўнае пачуццё нацыянальнай адасобленасці і імкненне да самастойнага жыцця". Складальнікі мемарыяла лічылі, што галоўнай задачай Польшчы на тэрыторыі Беларусі павінна быць не імкненне да хуткай паланізацыі беларусаў, а рэалізацыя палітыкі, заснаванай на паслядоўнай і ўпартай працы, з тым каб адарваць беларусаў ад Расіі. "Аб'яднанне беларускіх земель з'яўляецца зараз адным з асноўных патрабаванняў беларускіх дзеячаў. Вылучэнне яго зараз, калі Беларусь павінна ўвайсці ў сферу польскага ўплыву, было б для ўсходняй палітыкі Польшчы надзвычайна вялікім козырам, бо... гэта не толькі зменшыла б прэтэнзіі Расіі адносна земель, не толькі занятых у гэты момант польскімі войскамі, але і перанесла б мяжу спрэчных тэрыторый на некалькі сотняў кіламетраў далей на ўсход", — адзначалі яны. Асноўны ўпор, па думцы складальнікаў мемарыяла, трэба было рабіць на працы з праваслаўным насельніцтвам Беларусі ў Мінскай губерні і на ўсход ад яе. Прапаноўваліся наступныя мерапрыемствы: увядзенне лацінскага алфавіта замест "рускага", устанаўленне на беларускіх землях незалежнай ад Масквы праваслаўнай царквы, супрацоўніцтва з беларускімі дзеячамі ў іх культурна-асветніцкай працы, наладжванне трывалых эканамічных кантактаў паміж Польшчай і Беларуссю. Прызнавалася мэтазгодным даць беларусам шырокія правы ў галіне самакіравання, даручыць ім справы мясцовага значэння, прадаставіць сродкі, неабходныя для ўздыму культурна-асветніцкага і эканамічнага ўзроўню краіны. Таксама складальнікі мемарыяла рэкамендавалі правесці плебісцыт адносна неабходнасці далучэння Беларусі да Польшчы. Усе мерапрыемствы трэба было праводзіць "выключна асцярожна і мэтанакіравана, пазбягаючы ўсялякіх залішне рэзкіх крокаў".

Падыходы "Таварыства Стражы крэсавай" падзяляліся польскім кіраўніцтвам. У канцы 1919 года Пілсудскі ў гутарцы з прадстаўніком Вялікабрытаніі падкрэсліў, што Беларусь не падрыхтавана да жыцця і мыслення палітычнымі катэгорыямі і таму трэба абмежавацца прадастаўленнем ёй толькі культурнай аўтаноміі. 24 студзеня 1920 года сябра Пілсудскага М. Касакоўскі пазначыў у дзённіку: "Палітычныя ўказанні зразумелыя: на тэрыторыі Міншчыны беларусы падтрымліваюцца як страхоўка ад Расіі, на тэрыторыі Брэсцкай акругі гэта залішне. Разглядаецца толькі падтрымка культурных, а не палітычных патрабаванняў... У так званай Беларусі будзе альбо "польскі", альбо "рускі" кірунак, любая падтрымка "беларускага" кірунка стварае яго штучна і не здольная даць яму сілы, таму трэба ім манеўраваць у той меры, у якой гэта неабходна для памяншэння рускага ўплыву". На нарадзе з прадстаўнікамі акупацыйнай адміністрацыі ў Вільні 1 лютага 1920 года Пілсудскі звярнуў увагу прысутных на тое, што ён мае намер пайсці на істотныя ўступкі ў галіне культурнага развіцця беларусаў, але палітычных уступак на карысць "беларускай фікцыі" рабіць не жадае.

Канчатковы падыход да "беларускага пытання" быў выпрацаваны на пасяджэнні польскага ўрада 8 сакавіка 1920 года. Прысутныя вырашылі адмовіцца ад планаў стварэння беларускай дзяржавы, саюзнай з Польшчай, абмежаваўшыся ўступкамі ў галіне самакіравання і культуры на тэрыторыі Мінскай акругі і тэрыторыях на ўсход ад яе. Гродзеншчына і Віленшчына разглядаліся як бясспрэчна польскія тэрыторыі, нязначным выключэннем маглі быць толькі іх асобныя паветы. Такім чынам, беларуская праблематыка стала разглядацца як унутрыпольская праблема.

**Аляксандр ЦІХАМІРАЎ.**

(Працяг будзе).

## ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ

# ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА

Тут патрэбны невялікі каментарый. У лісце ўспамінаецца знакаміты генерал Генрык Дэмбінскі, герой паўстання 1831 года і венгерскай рэвалюцыі. Звесткі аб яго смерці не пацвердзіліся. Памёр генерал у 1864 годзе ў эміграцыі. Кастуся Рагоўскага, які згадваецца ў пісьме, таксама бачым на нашым здымку. (Гл. фотаздымак у № 7 "Голасу Радзімы"). Гэта студэнт, у 1863 годзе, як і Бішаф, быў паўстанцам, спецыяльная гаворка аб ім яшчэ наперадзе.

Другое пісьмо Бішафа без даты, зноў жа адлюстроўвае клопаты, звязаныя з апекаваннем над палітычнымі вязнямі, якіх усё везлі і везлі, і ў тагачасных "беларусінаў" ставала сэрца і мужнасці, каб кожнага неяк прывеціць, не пакінуць у цяжкую хвіліну без увагі і дапамогі. Вось і ў даным выпадку Бішаф заклапочана пісаў: "Полчаса тому назад прислал нам Стоцкий своего мальчика уведомляя, что сего числа утром привезли почтовыми (коньмі. — **Г. К.**) арестантов, их было пятеро, т. е. по одному на повозке, а при каждом по бокам по одному жандарму, при том мальчик сказал, что он сам вместе с своим барином видели это своими глазами, сообщил я об этом Семирадскому, — узнайте, действительно ли это правда, чтобы мы не ездили даром". Доктар Багуслаў Семірадскі — постаць у гісторыі паўстання вядомая і, трэба сказаць, трагічная: член рэвалюцыйнага Камітэта руху ў Мінску, у 1863 годзе паўстанцкі начальнік горада, сасланы пасля арышту ў Ніжні Ноўгарад, ён не вытрымаў разлукі з радзімай, прыняў яд (дыпламаваны медык ведаў, як пайсці з жыцця, якое зрабілася невыносным).

Нарэшце, трэцяе пісьмо, якое трапіла ў рукі царскіх улад, самому Бішафу не належала, але змяшчала яго характарыстыку, надзвычай цікавую для следчых. Удзельніца патрыятычнага руху Роза Галаўня пісала ў 1861 годзе, што "весьма с хорошей стороны знала Бишофа и что он целым сердцем предан интересу Польши и что его никакой другой предмет не может занимать и интересовать".

Такія выявіліся факты.

Улады прызадумаліся, што рабіць з гэтым незразумелым прусакам (па крыві і грамадзянству), які так шчыра звязаў сябе з вызваленчым рухам Польшчы і Беларусі. Запраторыць куды да белых мядзведзяў — потым не абярэшся клопату з непадатлівым прускім урадам. З'явілася саламонава рашэнне — зняволіць у Дзінабургскай крэпасці яшчэ на паўгода і адправіць на жыхарства куды-небудзь у Магілёў, вядома ж, не так сабе, а пад самы пільны нагляд паліцыі.

Пакуль Бішаф абжываў турэмную камеру ў Дзінабургу (Даўгаўпілс), следства па інерцыі працягвалася, бюракратычная машына круцілася, удакладняліся асобныя факты, пункты абвінавачання. Новую неспрыяльную для вязня звестку падкінуў міністр народнай асветы Галаўнін, які 24 жніўня 1864 года паведаміў віленскаму губернатару: "...Карл Бишоф не кончил курса в С. -Петербургском университете не вследствие закрытия оного, последовавшего 20 декабря 1861 г., а по неприятию им матрикулы, вследствие чего и был уволен из числа студентов С.- Петербургского университета еще до закрытия университета, именно в октябре месяце 1861 года". Бішаф, які быў тады на II курсе, паўставаў, такім чынам, актыўным удзельнікам хваляванняў студэнтаў, што пратэставалі супраць увядзення новых, больш строгіх правіл, зафіксаваных у матрыкулах (заліковых кніжках). Як мы ведаем, не прыняў матрыкулы і мусіў пакінуць універсітэцкія сцэны наш паэт Францішак Багушэвіч. З таго самага пакалення бунтароў-шасцідзесятнікаў, равеснікам ці амаль равеснікам Багушэвіча быў Бішаф, што пацвярджаецца прысланай міністрам метрыкай мінскай лютэранскай царквы ад 26 лютага 1841 года, са студэнцкай справы Бішафа.

Нарэшце Мураўёў-вешальнік прыняў канчатковае рашэнне. 1 верасня 1864 года ён паведаміў у Пецярбург шэфу жандараў і міністру ўнутраных спраў:

"В мае месяце прошлого года возвратился добровольно из разбитой шайки мятежников содержащийся ныне под арестом в Динабургской крепости бывший студент С. -Петербургского университета, прусский поданный, сын переплетчика, проживающего в Минске, Карл Бишоф, который, по произведенному расследованию, независимо от упадающего на него подозрения в добровольном присоединении к мятежу, оказался виновным в враждебных действиях против правительства как агент по распространению революционного движения в крае, и в участии в политических беспорядках, происходивших между студентами С. -Петербургского университета". Мураўёў паведамляў, што ім загадана выслаць Бішафа за мяжу з забаронаю ўезду ў "пределы империи".

Пачалі лічыць пажыткі, збіраць звесткі пра маёмаснае становішча Бішафа. У 1865 годзе мінскі паліцмайстар палкоўнік Шміт данёс, што маёмасці ў яго ў Мінску ніякай няма, "отец его занимается ремеслом переплетчика и находится совершенно в бедном состоянии". Выходзіць, Бішаф быў тыповым разначынцам, які ўласнай працай мусіў прабіваць сабе дарогу.

Завяршаецца перапіска пра Бішафа яшчэ двума дакументамі. У 1876 годзе памочнік начальніка Арлоўскага губернскага жандарскага ўпраўлення па Бранскаму павету чамусьці запатрабаваў звесткі пра былога студэнта Пецярбургскага універсітэта Карла Бішафа, які ўцёк у Амерыку (так у дакуменце). Што за ўсім гэтым хаваецца — невядома. Праз год Бішаф цераз пасольства пачаў прасіцца, намацваць — ці нельга вярнуцца ў Мінск, каб падтрымаць старых бацькоў. Ці ўдалося — зноў не ведаем.

У прыведзеных матэрыялах пра Бішафа ўжо прагучала прозвішча студэнта Кастуся Рагоўскага. На нашым здымку двое Рагоўскіх — Канстанцін і Рамуальд. Яны сядзяць побач — крайнія злева ў першым радзе. Абодва ў паходных ботах, нібы гатовыя для далёкай дарогі. Рамуальд якраз прыціснуўся да Дуніна-Марцінкевіча. За імі ў другім радзе стаіць ужо знаёмы нам Бішаф, даверліва, па-таварыску паклаўшы руку на плячук Рамуальду.

Як відаць з матэрыялаў дакументальнага зборніка "Русско-польские революционные связи" (Масква, 1963), студэнты Рагоўскія (асабліва Кастусь) напярэдадні паўстання Каліноўскага былі завадатарамі рэвалюцыйнага студэнцтва, польска-беларускіх студэнцкіх зямляцтваў у Маскве і Пецярбургу, аднаго з іх таварышы называлі нават "апосталам" (далёка не кожнаму собіла ўзбіцца на такую пашану).

Канстанцін Рагоўскі ўшанаваны кароткай згадкай у вядомай кнізе паўстанцкіх некралогаў З. Калюмны (Кракаў, 1868). Кніга называецца "Памятка для польскіх сем'яў". Але гэта і беларускі мартыралог (дастаткова сказаць, што тут ёсць звесткі пра Каліноўскага, пра дзесяткі іншых беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі — пакутнікаў свабоды; між іншым, трапіў туды і Валерый Урублеўскі — лічылі, што ён падчас паўстання загінуў). Пра Рагоўскага там літаральна некалькі неацэнных для нас радкоў (аўтар кнігі зафіксаваў, відаць, нейкія вусныя інфармацыі): нарадзіўся ў Мінску, студэнт Маскоўскага універсітэта, пасля 9-месячнага турэмнага зняволення яго хворым саслалі ў Сібір, у капальні. Памёр у Цюмені ў першай чвэрці 1864 года.

А што скажуць архіўныя крыніцы?

У віленскім архіве захоўваецца судова-следчая справа 11 паўстанцаў, якія здаліся сялянам у вёсцы Свядах (цяпер Лепельскі раён) пасля разбіцца пад Падбярэззем таго ж атрада, у якім знаходзіўся і Бішаф. Гэта маладыя разначынцы — некалькі сялянаў, а больш дробных дваран. Цікавая постаць у ліку іншых — выпускнік Маскоўскага універсітэта, барысаўскі павятовы доктар Канстанцін Акуліч, дарэчы, праваслаўнага вызнання, што яшчэ раз сведчыць аб досыць актыўнай падтрымцы паўстання беларускай інтэлігенцыяй рознай канфесійнай прыналежнасці.

Сярод гэтых адзінаццаці быў і Канстанцін Рагоўскі, які 14 чэрвеня 1864 года даў наступныя паказанні: 23 гады, ураджэнец Ашмянскага павета, студэнт С. -Пецярбургскага універсітэта (у некралогу было — Маскоўскага. — **Г. К.**). Жыў у фальварку Янове Сенненскага павета, дзе бацька быў упраўляючым. 23 красавіка (гэта дата пачатку паўстання на Магілёўшчыне) паехаў за 20 вёрстаў да сястры ў маёнтак Абчуг. Па дарозе ноччу быў спынены мяцежнікамі, якія прывялі ў паўстанцкі лагер каля Валосавічаў, дзе камандавалі Кучэўскі і Жултка. (Гэта адметны асяродак паўстання ў паўночна-ўсходнім кутку былога Барысаўскага павета, цяпер Лепельскі раён. Сюды пасля няўдач на Магілёўшчыне прывялі магілёўска-сенненскіх паўстанцаў Жаброўскі і Алендскі. — **Г. К.**) Прызначаны ў абоз без зброі. З Валосавічаў пайшлі да маленькай вёскі Падбярэззе. Мы, 11 чалавек, месціліся ў крайняй хаце. Пры набліжэнні войскаў уцяклі ў Свяды (маёнтак графа Плятара), дзе здаліся сялянам. Сельскі старшына прывёў нас у Лепель. Адтуль — у Барысаў.

Падобнай версіі трымаліся і астатнія. За выключэннем адвочнага — з моманту здачы сялянам — усё ці амаль усё было прыдуманай легендай. Па зразумелых прычынах вязні хавалі свой актыўны ўдзел у паўстанні. У першапачатковым спісе паўстанцаў сказана, што Акуліч меў уласную дубальтоўку і рэвальвер, браты Уладзіслаў і Баляслаў Дамбровы са Свядаў былі ў атрадзе першы капітанам, а другі падпаручнікам, і нават узяты з Акулічам 17-гадовы Георгій Мароз лічыўся ў паўстанцаў за унтэр-афіцэра.

У кастрычніку 1863 года Мураўёў-вешальнік вызначыў меру пакарання: каго ў Сібір, каго ў салдаты, а малалетку 15-гадоваму сыну фельчара са Слабодкі Вішнеўскаму "прапісаны" элементарныя розгі. Канстанціну Рагоўскаму выпала ісці на жыхарства ў Томскую губерню. Ды, як мы ўжо ведаем, дайшоў ён толькі да Цюмені, дзе прытуліла яго навек сібірская зямелька.

Рамуальд Рагоўскі праходзіць па іншай паўстанцкай справе (у тым самым віленскім архіве) — "О называющем себя дворянином жителе Тобольской губернии Петре Ивановском 19 лет, дворянине Минской губернии Викторе Озембловском 22-х лет и дворянине Могилевской губернии Ромуальде Роговском 23 лет".

Гэта тройца разам з паўстанцкім камандзірам Косткам-Жаброўскім была затрымана 13 мая лясным аб'ездчыкам Жылінскім. Паказалі, што знаходзіліся ў "шайцы", разбітай 7 мая каля вёскі Падбярэззе (усё тая ж нешчаслівая для паўстанцаў бітва). Кінуліся ў лес, дзе іх сустрэў Жылінскі, гасцінна запрасіў да сябе, напаіў гарай і, калі здарожаныя тулягі пазасыналі, згроб зброю, паведаміў у суседнюю вёску і пры дапамозе падаспелых сялянаў усіх перавязаў і даставіў у Барысаў. Так што Жылінскі таксама быў своеасаблівым героем, толькі з урадавага боку. Тым больш, што сярод захопленых ім паўстанцаў былі, як высветлілася, важныя птахі.

Збеглага з часці афіцэра рускай службы Жаброўскага адразу аддзялілі ад астатніх, завялі на яго асобную справу і пасля доўгага следства і суда публічна расстралялі ў Барысаве 24 чэрвеня 1863 года. Размова з вайскоўцамі — парушальнікамі прысягі — была кароткая.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 7.**

## УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ

# ШЧАСЛІВЫ ТАЛЕНТ

"Пакуль не пісаў, я быў самым вясёлым хлопцам сярод студэнтаў, калі вучыўся ў Мінскім педтэхнікуме. Сярод настаўнікаў, калі працаваў у Кустаўніцкай школе на Палессі і ў Барысаве пазней. Потым у Маскве — сярод слухачоў ваенна-палітычнай акадэміі. А як стаў пісьменнікам — стала не да смеху... Бо няма, відаць, большых пакут, чым творчыя пакуты".

Паспрабуйце вось так, у адным абзацы, накрэсліць біяграфічны абсяг уласнага жыцця, як зрабіў гэта з абаяльнай усмешкай Леанід Прокша. Будучы асабіста добра знаёмай з Леанідам Януаравічам — ад сябе — дадам: вясёлым, шчырым, добразычлівым ён заставаўся і ў глыбокіх ужо гадах (напісаць пра яго "калі быў ужо і стары" адмаўляецца рука...)

Такім лёгкім было і яго пяро.

"Першыя творы мае, якія прыносілі — я ўпэўнены — карысць, былі... заявы, што пісаў я па просьбе калгаснікаў у розныя савецкія ўстановы. Пачалося гэта так: аднойчы прыйшла да мяне бабулька і папрасіла, каб напісаў заяву. Я выслухаў яе і напісаў. Просьбу бабулькі задаволілі. Пасля гэтага па вёсцы ўсе загаварылі, што калі ўжо заяву напіша настаўнік, то дапамога будзе абавязкова... І пачалі да мяне ісці людзі нават з суседніх вёсак. Што ж, была карысць людзям — была і мне карысць. Бо я пазнаваў жыццё, вучыўся з фактаў выбіраць галоўнае, пісаць пра самае важнае".

Пісаць і выступаць у друку Леанід Прокша пачаў з 1937 года (газета "Віцебскі пралетары"). Пісаць было пра што! Жыццёвая дарога куды толькі ні прыводзіла яго! Настаўнічаў. Служыў у Чырвонай Арміі. Быў літработнікам у "Віцебскім рабочым" і польскім "Штандарце вальносьці"... Быў рэдактарам рэспубліканскай польскай газеты "Піянер". У гады Вялікай Айчыннай — ваенным журналістам. Пасля вайны скончыў ваенна-палітычную акадэмію ў Маскве. Затым зноў была журналістыка: два гады загадчыкам аддзела ў "Камуністце Беларусі", адзінаццаць гадоў рэдактарам газеты "За вяртанне на Радзіму" ("Голас Радзімы"), тры гады галоўным рэдактарам "Літаратуры і мастацтва"...

Членам СП СССР у 1961 годзе Леанід Прокша стаў, маючы ўжо ладны стос уласных твораў. Узнагароджаны — і не адзін раз — і медалямі, і ордэнамі. Нават польскім Залатым крыжам заслугі...

Леанід Прокша не належаў да той кагорты "абраннікаў", каго, як адбываючы радоўку, нястомна ўслаўлялі крытыкі і літаратуразнаўцы. І тае бяды! Яго ведалі і любілі чытачы. Асабліва дзеці!

"Незвычайныя прыгоды Хлопчыка Бульбінкі", "Стрэлы над ярам", "Мальчик в больших башмаках" (зазначу: Леанід Прокша пісаў на беларускай і рускай мовах). У дзіцячых бібліятэках чытачы станавіліся па іх у чаргу.

Ці патрэбна была больш удзячная адзнака?

Дарослым, асабліва аматарам вясёлага гумарыстычнага апавядання, ён пакінуў кніжкі "Каб жылося-вялося", "Камедыянты", "Кантроль сумлення", "Семадзейнасць у ліфце"... Вядомыя яго аповесці: "Ці варта было жаніцца", "За Добрыцай-рэчкай". Раманы: "Пакуль жывеш на свеце", "Туника Несса"... Пералік можна працягваць, але найлепшая парада — папрасіць у бібліятэцы хоць нейкую з кніг Леаніда Прокшы, каб потым вярнуцца і папрасіць яшчэ.

Леанід Януаравіч памёр у 1994 годзе. Адышоў, як і жыў, светлым прыгожым чалавекам. І пісьменніку — яму таксама ўдзячная наша памяць, бо кнігі яго жывуць і завуць нас: каб не забывалі...

# ЮЛЬЯН ПШЫРКОЎ

Юльян Сяргеевіч быў нашым настаўнікам ва універсітэце. У БДУ... Як сёння памятаю, як прыйшоў ён у 1945 годзе першы раз да нас у аўдыторыю на лекцыю. Чытаць курс беларускай савецкай літаратуры... Нашы выкладчыкі — і ніжэйшыя вучоным рангам і прафесары — хадзілі па тым ваенным, яшчэ і пасляваенным часе, як і мы, студэнты, у тым, што меў, што здольна было трымацца на плячах... Новы выкладчык з'явіўся ў спраўным вайсковым адзетку, у добрых ботах, — толькі без пагонаў... Неяк вельмі ж не пасаваў увесь гэты вайсковы рыштунак яго сціплай, зусім някідкай цывільнай постаці!

Адкуль нам было ведаць, што не надта красамоўны наш Юльян Сяргеевіч — да нас — не па падручніках, а на ўласным вопыце спазнаў і горыч адступлення па роднай, пакінутай на здзек ворагу зямлі; ваяваў і абараняў шматпакутны Ленінград, дзе прайшлі лепшыя гады яго юнацтва і навучання ў ЛІФЛІ, а потым у Ленінградскім універсітэце, які паспеў скончыць да вайны... (Там, пад Ленінградам, ён двойчы быў і паранены). Што супроць дывізіі, у якой ён ваяваў, наступала адна з самых баявых эсэсаўскіх дывізій — "Мёртвая галава"... Што закончыў ён вайну пад Кёнігсбергам, дзе быў зноў паранены... Ён бачыў пераможаную Германію. Ён зведаў вялікую радасць перамогі.

...Чытаць свой лекцыйны курс Пшыркоў пачаў з бясконца дарагой і блізкай яму творчасці Якуба Коласа. (Ён пісаў па ёй дыпломную работу і збараняў яе — на беларускай мове!) — яшчэ ў сваім Ленінградскім універсітэце).

**Мой родны кут!**
**Як ты мне мілы!**

Ён гэта ведаў, паспеўшы толькі што вярнуцца з пякельнае вайны...

Ведалі гэта і мы, яго слухачы-вучні-студэнты. Універсітэт сабраў нас, таксама параскіданых горам і няшчасцем каго куды.

...Юльян Пшыркоў нарадзіўся ў 1912 годзе ў сяле Кісцяні Рагачоўскага раёна. Хараство зямлі і магутнага Дняпра з маленства ўзялі ў палон вясковага хлапчука, зачараваным позіркам наканавалі глядзець на навакольны свет і спасцігаць яго. Таму і вучэнне было яму на радасць і ўцеху. Але скончыў школу, а пасля школы педкурсы ў Рагачове, узрасло і выспела неадольна імклівае жаданне і самому сеяць разумнае, добрае, вечнае.

Ленінград і гады навучання там, асветленыя талентамі і розумам буйнейшых-філолагаў краіны, надалі ведам глыбіню, узнеслі іх на крылах высокай культуры (піцерскай!),завяршылі фармаванне асобы.

Такім высокаадукаваным інтэлігентам прыйшоў Юльян Пшыркоў у наш універсітэт, каб навучаць і "рабіць людзей" і з нас — сваіх расхлістаных за вайну студэнтаў... Займаўся ён гэтым дванаццаць гадоў. Адначасова сумяшчаў работу і ў Інстытуце літаратуры АН БССР.

Заслужаны дзеяч навукі. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Член СП СССР з 1950 года... Ордэны. Медалі. Ганаровыя граматы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР...

А мне за ўсімі гэтымі "вышынямі" бачыцца — найперш — сціплая ўсмешлівая постаць Настаўніка.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

*МАСТАЦКІЯ ПРОМЫСЛЫ*



# СУВЕНІРЫ СА СЛОНІМА



Паглядзелі на фотаздымкі? Сімпатычныя вырабы, ці не так? Гэта на чорна-белых фота. А ў натуры, у колеры, яны яшчэ прыгажэйшыя. Вочы разбягаюцца, калі глядзіш на такую прывабнасць.

Нездарма людзі, якія ідуць у госці альбо едуць за мяжу, ахвотна набываюць іх у якасці падарункаў, сувеніраў. Задаволеныя ўсе: і тыя, каму паднеслі вырабы слонімскай фабрыкі, і хто падарыў, і хто зрабіў іх.

— Прыгажосцю і бытавой зручнасцю перш за ўсё вызначаецца вартасць нашай прадукцыі, — гаворыць дырэктар прадпрыемства Іван Фідрык. — А ў яе аснове — народныя традыцыі ды руплівасць нашых майстроў, пераважная большасць з якіх жанчыны.

Фабрыцы мастацкіх вырабаў у Слоніме амаль шэсцьдзесят гадоў. За гэты час былі ў яе жыцці і ўздымы, і спады. Апошні з іх выкліканы агульным крызісам эканомікі Беларусі. Галоўнае — не хапала сродкаў, цяжка было набыць сыравіну, знізіліся заробкі.

— Аднак, — лічыць Іван Іванавіч, — у мінулым годзе калектыў дамогся пералому, цвёрда становіцца на ногі.

Слонімскія сувеніры робяцца ў народным стылі, аздабляюцца традыцыйнымі беларускімі арнаментамі, узорамі. Асабліва гэта заўважаеш у інкрустацыі саломкай і саломапляценні. Створаны два спецыяльныя ўчасткі. Працаваць на іх запрошаны выпускнікі Мірскага мастацкага вучылішча.

Традыцыі народных мастацкіх промыслаў нашых продкаў захоўваюцца, аднаўляюцца і на іншых участках вытворчасці. Ткацтва, разьба па дрэву, аб'ёмная разьба па ім, вышыўка... Такія вырабы рэалізуюцца ў спецыялізаваных магазінах у Слоніме, Ваўкавыску, у іншых беларускіх гарадах. Пастаўляецца слонімская прадукцыя і ў Галандыю, Італію, Расію, Польшчу, у іншыя краіны.

Выбар вельмі шырокі: з саломкі — 25 відаў, вышыўкі — 7, кухонных набораў — 10, чайных камплектаў — 7, дзіцячага адзення — 70.

...Ды яшчэ вырабы пад слуцкія паясы. Ды індывідуальныя заказы для калектываў мастацкай самадзейнасці. Ды вырабы з дрэва.

У гэтым годзе мяркуецца яшчэ пашырыць асартымент, павялічыць аб'ём вытворчасці.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар фабрыкі Іван ФІДРЫК; будынак фабрыкі; вырабы дэманструе адна з лепшых работніц Ірына БАЛТУШКА; сувеніры з саломкі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





**У ГАЛЕРЭІ «ШОСТАЯ ЛІНІЯ»**

# АД ПОДПІСАЎ НА СЦЕНАХ...

Графіта з'яўляецца, бадай, самым старажытным відам мастацтва, таму што жаданне надрапаць што-небудзь на бліжэйшай сцяне з'явілася ў чалавека ў той момант, калі ён змог упершыню заціснуць у руцэ востры камень. А яшчэ графіта — самы народны від мастацтва, бо кожны з нас выступаў калі не яго стваральнікам, то ўжо чытачом — абавязкова. Напэўна, менавіта таму Віталій Трафімаў і вырашыў, што надышоў нарэшце час перавесці насценны роспіс з бетонных паверхняў нашых будынкаў у залы галерэі "Шостая лінія".

У Трафімава сваё бачанне графіта. Ён піша не на сценах, а на палотнах, а потым палотны вешае на сцены. Яшчэ ён лічыць, што ў Мінску надпісы на сценах з'яўляюцца пераважна справай рук работнікаў камунальных службаў, таму стыль мінскага графіта можна прадставіць у двух словах: "Вадамер" і "Цеплавузел". Апошнім часам гарадскія ўлады да мастацтва насценных роспісаў сталі прыцягваць прафесіяналаў, цяпер у цэнтры горада можна бачыць "заказное" графіта.

Эпіграфам да выставы стаў радок з верша Кітса "Таму, хто ў горадзе быў замураваны". Зрэшты, не толькі ў горадзе. На думку мастацтвазнаўца Дзяніса Раманава, які прысутнічаў на адкрыцці выставы, самую вялікую колькасць графіта можна сустрэць на прыпынках, у ліфтах, у месцах пазбаўлення волі — усюды, дзе існуе нейкае абмежаванне ці забарона. Прастора нечым не задавальняе чалавека, і ў яго ўзнікае жаданне гэтую прастору пераўтварыць. З такога пункту гледжання, чалавецтва можна падзяліць на дзве часткі: да першай адносяцца тыя, хто імкнецца прастору змяніць, да другой — тыя, хто змагаецца з дзейнасцю першых і вяртае прастору ў першапачатковы стан. З гэтай мэтай у Італіі пачалі прымяняць спецыяльнае пакрыццё сцен, якое дазваляе лёгка змываць узоры народнай творчасці. Між тым, графіта на Захадзе стварылі сваю мову сімвалаў, пры дапамозе якога яны выдатна размаўляюць адзін з адным у той час, як недасведчаныя пішуць малаграфіі пра тое, што ж на самай справе ўяўляе іх дзейнасць. Некаторыя лічаць, што гэта лозунгі, напісаныя на сценах ачмурэлымі ад гультайства падлеткамі. Іншыя пераканаsuccessfully, што гэта — разметка тэрыторыі ці манументальны плакат (прабачце за каламбур), размешчаны на манументах.

Варта адзначыць, што на прадстаўленых палотнах не знайшлі свайго адлюстравання найбольш вядомыя ўзоры надпісаў рускамоўных графіта. Зрэшты, яны даступныя кожнаму, у каго на шляху аказаўся грунтоўны айчынны плот. Што тычыцца ілюстрацый да данай нататкі, то кожны можа прачытаць іх на сцяне ўласнага дома.

**Веранiка ЧАРКАСАВА.**

## АДГУКНІЦЕСЯ, ПУХАЎЧАНЕ СВЕТУ!

***Нягледзячы на ўсе складанасці сацыяльна-эканамічнага кліталту, у Пухавіцкім раёне, што ў Мінскай вобласці, вядзецца вялікая асветніцкая і краязнаўчая работа. Літаральна новае дыханне набыў Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей, які месціцца зараз у старажытнай сядзібе Бонч-Асмалоўскіх. У апошнія гады ў раёне выдаецца кніжная серыя "Паэты Пухаўшчыны". Шмат зроблена па ўшанаванню знакамітых пухаўчан.***

***Але ж, безумоўна, пра многія цікавыя лёсы ўраджэнцаў Пухаўшчыны (асабліва тых, хто праявіў сябе за межамі нашай краіны) не ведаюць дома. Таму і просім мы адгукнуцца пухаўчан з усяго свету, дзе б яны ні жылі. Раскажыце, калі ласка, пра сябе. Па магчымасці — дашліце фотаздымкі, копіі дакументаў, успаміны. Спадзяёмся, што, дзякуючы вашай падтрымцы, адкрыюцца і новыя старонкі пухавіцкай гісторыі. Матэрыялы, дасланыя пухаўчанамі з усіх куткоў свету, знойдуць сваё ўвасабленне ў музейных экспазіцыях.***

**Пішыце па наступных адрасах: 222810, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Пухавіцкі раён, в. Блонь, раённы краязнаўчы музей, А. А. ПРАНОВІЧУ, альбо**

**220056, Рэспубліка Беларусь, Мінск, вуліца 50 гадоў Перамогі, д. 3, кв. 14, КАРЛЮКЕВІЧУ А. М.**

**Аляксандр ПРАНОВІЧ, дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, краязнаўца, укладальнік гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць. Пухавіцкі раён".**


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).





НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 832 экз. Індэкс 63854. Зак. 305.
Падпісана да друку 23. 2. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.